наша
# свабода

№41 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

18 ліпеня
2000 года
АЎТОРАК

Адрас: 220123,
г.Мінск, а/я 103

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Палата коштам 4 мільярды

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

**Галоўнай тэмай апошніх дзён стала, безумоўна, прызначэнне даты выбараў у Палату прадстаўнікоў: згодна з указам А.Лукашэнкі, першы тур галасавання адбудзецца 15 кастрычніка, другі – 29 кастрычніка. Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзія Ярмошына ўжо на другі дзень пасля з'яўлення ўказа расказвала журналістам пра падрыхтоўку да выбарчай кампаніі.**


Фота IREX/ProMedia

Абранне 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў 2-га склікання абыдзецца дзяржаўнай казне ў 4 мільярды 32 мільёны 600 тысяч беларускіх рублёў. Лідзія Ярмошына сцвярджае, што гэтых сродкаў «увогуле дастаткова для правядзення выбараў». Фінансавыя патокі з міністэрства фінансаў будуць спачатку накіроўвацца на рахунак Цэнтральнай выбарчай камісіі, адкуль пэўныя сумы грошай (у залежнасці ад колькасці выбарчых камісіяў і выбаршчыкаў) будуць пераразмяркоўвацца ў рэгіёны.

Ужо сёння ў афіцыйнай прэсе мусіць з'явіцца спіс выбарчых камісіяў. Такая аператыўнасць, па словах Л.Ярмошынай, прадыктаваная дзеля таго, «каб усе тыя органы, якія жадаюць накіраваць сваіх прадстаўнікоў у склад акруговых камісіяў, змаглі своечасова падрыхтаваць дакументы. Мы гэта робім адмыслова дзеля таго, каб даць найшырэйшыя магчымасці для ўдзелу ў выбарчых камісіях усіх тых грамадска-палітычных, грамадзянскіх сілаў, якія пажадаюць удзельнічаць у правядзенні выбарчай кампаніі». З апазіцыі пакуль толькі Партыя камуністаў Беларуская (ПКБ) публічна заявіла пра намер вылучыць ва ўсе выбарчыя камісіі сваіх прадстаўнікоў. Камуністы збіраюцца дэлегаваць, ва ўсялякім выпадку, не менш як 100 чалавек.

Лідзія Ярмошына абнародавала асноўныя мерапрыемствы каляндарнага плана працы ЦВК. Да 31 ліпеня мусіць завяршыцца фарміраванне акруговых камісіяў. З 6 жніўня пачнецца вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты — і працягнецца да 5 верасня. З 5 па 14 верасня акруговыя камісіі будуць правяраць усе дакументы, пададзеныя кандыдатамі, і праводзіць іхнюю рэгістрацыю. Перадвыбарчая агітацыя пачынаецца 15 верасня і завершыцца 14 кастрычніка.

Цэнтрвыбаркам ужо зацвердзіў усе ўзоры выбарчых дакументаў: формы бюлетэня, пратаколы акруговых камісіяў, формы спісаў выбаршчыкаў, узор подпіснога ліста па зборы подпісаў, — карацей, увесь аб'ём дакументацыі, які будзе выкарыстоўвацца ў перыяд правядзення выбарчай кампаніі. Усе названыя паперы здадзеныя ўжо ў друкарню, і, як спадзяецца Лідзія Ярмошына, 25 ліпеня дакументы будуць развезеныя па рэгіёнах. Апроч таго, ЦВК прыняла пастановы аб парадку правядзення перадвыбарчай агітацыі і прапаганды; аб захаванні і здачы ў архіў усёй выбарчай дакументацыі; аб акрэдытацыі як беларускіх, так і замежных назіральнікаў. Апошніх, відавочна, можа і зусім не быць: улады не выканалі ні адну з чатырох умоваў, пастаўленых перад імі АБСЕ, таму накіраванне замежных назіральнікаў на восеньскія выбары знаходзіцца пад вялікім пытаннем. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

## Міністра знялі за грахі

Рыгор БУЯН

**Міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Юрый Мароз сышоў у адстаўку. Афіцыйная версія сыходу чыноўніка — «па стане здароўя». Адпаведны ўказ быў падпісаны Аляксандрам Лукашэнкам 14 ліпеня.**

Юрый Мароз узначальваў сельскагаспадарчае ведамства 2 снежня 1998 года. Дагэтуль ён 13 гадоў кіраваў саўгасам «Белавежскі», у 1996-97 гадах быў старшынёй камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Брэсцкага аблвыканкама, яшчэ два гады працаваў першым намеснікам міністра сельскай гаспадаркі. На міністэрскай пасадзе Ю.Мароз змяніў Івана Шаколу.

Зрэшты, у афіцыйную версію адстаўкі «па стане здароўя» 50-гадовага чыноўніка штосьці не верыцца. Прычыну ягонага выгнання трэба шукаць у іншым. Людзі, блізка знаёмыя з былым міністрам, сцвярджаюць, што Юрый Мароз быў вельмі «зручным» для ўладаў міністрам, які ніколі не спрабаваў адстаяць інтарэсы галіны. Тым часам, сельская гаспадарка Беларусі ставіць усё новыя адмоўныя «рэкорды» – замаразкі, спякота, дажджы і іншыя прыродныя катаклізмы штогод ставяць Беларусь на мяжу голада. Дагэтуль Ю.Марозу ўдавалася пазбегнуць адказнасці за ўсе правалы на сельскагаспадарчым фронце, але, відаць, надышоў час і яму адказваць за грахі галіны.

Дарэчы, не апошнюю ролю ў адстаўцы экс-міністра сыграла сакрушальнае паражэнне на трэцім з'ездзе прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу, які прайшоў у Мінску за два дні да адстаўкі. Спрабуючы падмяць пад сябе буйнейшы галіновы прафсаюз АПК, які аб'ядноўвае мільён 84 тысячы чалавек, урад выставіў дзеючаму старшыні Аляксандру Ярашуку альтэрнатыву – міністра Юрыя Мароза. Аднак калі за першага прагаласавалі 105 дэлегатаў, то за другога – толькі 29. Улады ж здрады, нават несвядомай, не даруюць. Міністр прайграў, таму міністр вымушаны сысці.

А ў міністэрскае крэсла перасеў былы першы намеснік міністра Вадзім Папоў. В.Папоў, па некаторых звестках, пачынаў сваю працоўную дзейнасць на радзіме А.Лукашэнкі – Магілёўшчыне; спачатку быў першым сакратарам Асіповіцкага райкама партыі, затым яго перавялі ў Магілёўскі абкам. Прыкладна год таму Вадзім Папоў стаў першым намеснікам міністра.

Сярод іншых кадравых ракіровак, праведзеных Аляксандрам Лукашэнкам у мінулую пятніцу, перш за ўсё звяртае на сябе ўвагу вяртанне ва ўладу рэктара Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі Міхаіла Дзямчука – ён прызначаны намеснікам старшыні Савета міністраў. Раней Міхаіл Дзямчук ужо працаваў віцэ-прэм'ерам ва ўрадзе Вячаслава Кебіча. ■

### ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Каардынацыйная Рада дэмакратычных сілаў выдала заяву пра выбары ў Палату прадстаўнікоў, прызначаныя на 15 кастрычніка.** У ёй гаворыцца, што апазіцыйныя партыі «не возьмуць удзел у выбарчым фарсе ўвосень бягучага года», бо рэжымам не выканана «ніводнай з умоваў свабодных і справядлівых выбараў»: няма дэмакратычнага выбарчага заканадаўства, якое б дазволіла апазіцыі бесперашкодна ўключыць сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі і арганізаваць кантроль над выбарамі; няма самога самастойнага парламенцкага органа, які меў бы рэальныя ўладныя паўнамоцтвы; па-ранейшаму забараняюцца масавыя акцыі, у турмах знаходзяцца палітычныя вязні, а іншадумцы Лукашэнкі не маюць магчымасці свабодна выказваць свае меркаванні ў дзяржаўных мас-медыя. Робіцца выснова, што «псеўдавыбары не палепшаць становішча ў краіне, не знізяць палітычнай і сацыяльнай напружанасці».

■ **Не выключана, што Уладзімір Высоцкі, з дня смерці якога паслязаўтра спаўняецца ўжо 20 гадоў, быў забіты на загад КДБ.** Гэтак лічыць польская пісьменніца Марлена Зімна. У сваёй кнізе «Хто забіў Высоцкага?» яна даводзіць, што афіцыйная версія сыходу спевака з жыцця выглядае досыць сумніўнай. У прыватнасці, М.Зімна спасылаецца на ўрача Высоцкага Анатоля Фядотава, інтэрв'ю з якім для газеты *Rzecz Pospolita* ўзяла адразу пасля смерці барда і паэта. Пісьменніца робіць выснову, што цьмяныя словы ўрача «мы гэта ўсё геніяльна зладзілі» сведчаць, што прычынай смерці ў дадатак да ўжытых Высоцкім заспакаяльнага і алкаголю магла стаць ін'екцыя смяротна-атрутнага прэпарата. Цікава, што сам доктар праз нядоўгі час пасля таго інтэрв'ю памёр пры нявысветленых акалічнасцях.

■ **Сваякі ахвяраў бамбардзіровак *NATO* па тэрыторыі Югаславіі, у прыватнасці тых, хто загінуў у выніку авіяўдараў па бялградскай тэлестанцыі ў сакавіку 1999 года, звярнуліся ў Еўрапейскі суд па правах чалавека з іскам па грашовую кампенсацыю да ўрадаў 17 з 19 дзяржаваў, уваходзячых у гэты ваенны блок.** Адвакат Тоні Фішэр, супрацоўнік ангельскай юрыдычнай фірмы, заявіў, што іск пададзены на падставе 2 і 10 артыкулаў Еўрапейскай канвенцыі правоў чалавека, дзе гаворыцца пра права на жыццё і свабоду слова.

### НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА






Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

**980**



# Экстэр'ер начальніка

**Аляксандр ДУБРАВІН**

Традыцыя – рэч на ўзроўні падсвядомасці амаль непераможная. Памятаю сваё ўражанне, калі прачытаў, што першыя савецкія і амерыканскія касманаўты былі ўсе спрэс невысокія ростам і крэпенькія тулавам. Месца ў касмічных караблях тады дужа бракавала, кожны грам быў на вагу золата. Гэта дыктавала адпаведны выбар. З таго часу пачалася традыцыя – пасылаць у космас невялічкіх, як бараўчкі, пілотаў.

А вось традыцыя прызначэння наменклатурнага начальства ў Саўдэпах (пад час іхняга канання) была зусім іншая. У нас усталяваўся свой, адметны ад сусветнага, стандарт. Чырвонатвары, пузаты, нахабны дзядзька, ганарысты перад простымі людзьмі, халуяваты перад начальствам, добры выпівоха і бабнік – вось найбольш характэрны партрэт таго суб'екта, які займаў самы прасторны кабінет у рай-гар-выканкамах амаль паўсюдна ў Беларусі. (Да гэтага часу з неверагодным рэалізмам успамінаю адно такое нешта з нечым у Смаргонях).

Чым меншым інтэлектам і адукацыяй валодаў кандыдат, тым лягчэй было яму рухацца па першых прыступках наменклатурнай лесвіцы, туды, дзе патрабаваліся ўжо сякія-такія спецыфічныя якасці: уменне інтрыгаваць, чытаць даклады, гаварыць ні пра што, праводзіць сходы, крывадушнічаць, хлусіць, здраджваць і г.д. Знешні выгляд адпавядаў зместу. Таму суб'ект з бегаючымі свінымі вочкамі, нячыстым сумленнем і наетым хайлом выдаваў на вялікага кіраўніка. Свой адрасу пазнаваў свайго па экстэр'еру. Больш таго, простыя людзі менавіта такім уяўлялі сабе саўдэпаўскага начальніка.

Вядома, здараліся і выключэнні, але вельмі рэдка. Мабыць, Масква свядома культывавала на нашай тэрыторыі такі тып кіраўніка – недалёкага, начальствалюбівага, малаадукаванага (завочная сельгасустанова, універсітэт марксізму-ленінізму, партшкола), залішне самаўпэўненага. Тым самым перашкаджала прыходу ў кіраўніцтва людзей самастойных, разумных, разважлівых, сумленных, нацыянальна арыентаваных.

«А што зараз?» — спытаецеся вы. «Які інтэр'ер у наменклатурных (прывілеяваных) начальнікаў новага набору?»

Не ведаю, што і сказаць. Увогуле, думаю, якая розніца паміж тымі і гэтымі? Традыцыя — рэч непераможная. Калі нават сам Лукашэнка не так даўно публічна заклікаў сваіх наменклатуршчыкаў «адарвацца ад карыта», то што можа дабавіць просты журналіст?

# Свята на Грунвальдскім полі

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

**14-16 ліпеня на Грунвальдскім полі адбылося святкаванне 590-ых угодкаў перамогі аб'яднанага войска Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага над крыжакамі.**

Прэзідэнты Польшчы і Літвы—Аляксандр Квасьнеўскі і Валдас Адамкус гаварылі пра польска-літоўскую перамогу на Грунвальдзе, пра моцныя братэрскія і збройныя традыцыі гэтых двух народаў. Перад імі на пляцы быў сшываваны польска-літоўскі батальён, створаны на просьбу літоўскага боку. Каб удзельнічаць у мірατворчых мерапрыемствах. Тут жа і адбылася прэзентацыя гэтага супольнага байгата аддзелу. На флагштоках, якіх было толькі два, луналі польскі і літоўскі дзяржаўныя сцягі. Да помніка героям Грунвальда абодва прэзідэнты ўсклалі вянкі, кветкі на якіх паўтаралі колеры гэтых сцягоў.

У прамовах ані разу не ўзгадвалася аб існаванні суседняй Беларусі і беларусаў, колькасць якіх у войску Вялікага Княства ў тры разы перавышала лічбу літоўцаў. Але, як добра вядома, беларуская ўлада прыклала неверагодныя высілкі, каб скасаваць Дзяржаўны герб Пагоня, пад якім нашыя прадзеды перамаглі крыжакоў. Гэтая ўлада пампезна адзначае толькі сталінскія перамогі. Тым самым беларусы па-ранейшаму выкрасленыя з кантэксту вялікай грунвальдскай перамогі.

Афіцыйнай праграмай таксама не прадугледжваўся ўдзел у інсцэніроўцы бітвы беларускіх рыцарскіх клубаў. Але яны прыехалі самі, іх дапусцілі да ўдзелу. Наколькі мне вядома, апроч мінскага «Сэрца цмока», якім быў знойдзены фундатар, усе астатнія прыехалі за ўласныя грошы. Гэтым разам на Грунвальдскім полі былі беларускія рыцары з Мінска, Магілёва, Брэста і Полацка. Паводле праграмы, апроч польскіх і літоўскіх, павінны былі ўдзельнічаць рыцары з розных краінаў Еўропы—агулам каля 750. Значыцца разам з нашымі іх павінна было быць больш за 800.

Паглядзець на відовішча сабраліся дзесяткі тысяч людзей. Бітва пачалася з залпу «польска-літоўскай» артылерыі. Гакоўніцы гэтак моцна стрэлілі, што конь пад каралём Ягайлам спудзіўся і скінуў вершніка, які крыжам упаў вобзем. Вокамгненна прыехалі дзве машыны «хуткай дапамогі». Медыкі чамусьці з паўгадзіны завіхаліся над пацярпелым, а бітва адбывалася каля машын з чырвоным крыжам. Потым пацярпелага забралі і з'ехалі. А неўзабаве скончылася бітва. З гістарычным вынікам, але без удзелу караля, які павінен быў прыняць «капітуляцыю» крыжакоў. Такім чынам, гісторыя нечакана была крыху перапісаная.

Напрыканцы 16 ліпеня над полем Грунвальдскай бітвы лунаў бел-чырвона-белы сцяг. На адным флагштоку з літоўскім, які намок ад дажджу і проста вісеў. ■

# «Пустых» грошай друкаваць не будуць?

**Марыя ГАМОН**

Прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын катэгарычна абвяргае чуткі пра магчымую эмісію. У адказ на меркаванні пра тое, што ўрад у сувязі са складанай фінансавай сітуацыяй у краіне збіраецца «запусціць друкарскі станок», прэм'ер заявіў: усе мусяць працаваць у межах тых сродкаў, што ёсць у бюджэце.

Уладзімір Ярмошын выказаў задавальненне працэсам збліжэння афіцыйнага і наяўнага курсаў беларускага рубля. Па ягоных словах, за апошні час розніцу ўдалося скараціць з 3,2 да 1,4 раза. Але, нягледзячы на гэты аптымізм, прэм'ер заклікаў усіх падрыхтавацца да цяжкіх часоў. Ён удакладніў, што ўрад распрацоўвае комплекс мераў, якія дазволяць прадпрыемствам «безбалезна перажыць вынікі збліжэння курсаў». ■


Фота ІТАР-ТАСС/ProMedia

# Настальгія замучыла камуністаў...

**Анатоль ЖУЧКО**

У Маскве левыя рухі Расіі і Беларусі заснавалі камуністычную партыю саюзнага значэння.

На такі крок камуністаў, па іх сцвярджэннях, падштурхнула імкненне замяніць дыктатуру капіталу верхавенствам працы і аднавіць палітычную і эканамічную ўладу працоўных на чале з сучасным працоўным класам – дыктатурай пралетарыяту.

Пытанне на ўстаноўчым з'ездзе было пастаўленае рубам: або наш працоўны чалавек верне сабе ўладу, адновіць Савецкую Сацыялістычную Радзіму і зноў набудзе гонар і вялікасць, або краіну напаткае непазбежная гібель. Першым сакратарам Камуністычнай партыі Саюза Беларусі і Расіі дэлегаты ўстаноўчага з'езда выбралі лідэра расійскага СКП-КПСС Алега Шэніна. Таксама не забыліся выбраць ЦК і палітбюро.

Цікава, што ў стварэнні беларуска-расійскай кампартыі не прымаў удзел беларускі бок. Камуністы Сяргея Калякіна выступілі супраць правядзення дадзенага з'езда і аб'яднання з Алегам Шэніным. Чыкіністы, якія ініцыявалі гэты аб'яднаўчы працэс, палічылі стварэнне новай партыі несвоечасовым. А прыехаўшых, нягледзячы на забарону кіраўніцтва, саратнікаў называюць «не маючымі паўнамоцтваў». Так што з кім аб'ядналіся расіяне, пакуль не зразумела. ■

# Валанцёры прыйшлі ў кляштар

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

**На «шпітальнай выспе» ля Брэсцкай крэпасці распачаліся першыя рэстаўрацыйныя работы на самым старажытным з усіх больш-менш ацалелых збудаванняў — былым жаночым кляштары бернардзінак. 18 студэнтаў з розных ВНУ горада заснавалі тут свой працоўны летнік.**

На жаль, ужо больш як 10 гадоў часу згублена пасля першай спробы брэсцкага дэмакратычнага аб'яднання «Стары горад» схіліць гарадскую ўладу да неабходнасці ўключыць рэшткі будынкаў з чырвонай цэглы ў экспазіцыю мемарыяльнага комплексу, каб былі хоць гарантыі яго ахова як помніка рэспубліканскай значнасці. Але кляштар пабудовы XVII стагоддзя па-ранейшаму застаецца па-за ўвагай экскурсіяў. Вежы і зводы заraслі дзірваном і кустоўем, а пад скляпеннямі маnаскіх келляў утвораныя стыхійныя сметнікі і прыбіральні.

Маладое крыло аб'яднання «Стары горад» на чале з сёлетнім выпускніком гістарычнага факультэта Брэсцкага педагагічнага універсітэта Дзмітрыем Шыманскім мае на мэце вызваліць руіны ад лішняй расліннасці, бруду і абломкаў. Гэты праект атрымаў падтрымку ў недзяржаўным фондзе грамадскіх ініцыятываў «ІДЭЯ». Брэсцкаму гарвыканкаму валанцёры ўдзячныя, што ім зараз не адмоўлена працаваць.

Вядома, немагчыма спадзявацца, каб комплекс культавых пабудоваў паўстаў у ранейшым абліччы. Касцёл разабраны да сутарэння на вышыні 2,3 метра. Ад будынка кляштара, які меў даволі развітую планіровачную структуру, засталіся некалькі тунэльных калідораў, якія сваёй паўцыліндрычнай наземнай формай агароджваюць па перыметры невялікі ўнутраны дворык. Калі ўдасца ўсё тут ачысціць і зрабіць кансервацыю сцянаў, то Брэст здолее ганарыцца ўзгадкаю архітэктурнай гісторыі XVII стагоддзя. Менавіта ў той час горад быў у росквіце, бо пасля прыняцця Брэсцкай уніі паўсталі новыя манументальныя збудаванні каталіцкіх і уніяцкіх святыняў, якія мелі вялікі ўплыў на культурнае і палітычнае жыццё. Будзе таксама справядлівым, калі канцэпцыю мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць» дапоўніць пласт падзеяў XVI—XVIII стагоддзяў на тэрыторыі валынскага прадмесця. Кляштар бернардзінак напачатку XIX стагоддзя цар Мікалай I выкупіў, каб размясціць у ім кадэцкі корпус. У 1854 годзе корпус быў пераведзены ў Маскву, а будынак стаў выкарыстоўвацца як ваенны шпіталь. З гэтага і пачыналася гісторыя «шпітальнай выспы» Брэсцкай крэпасці. ■

# Застанемся без «жалезнай заслоны»

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

На адным з адмежкаў беларуска-польскай мяжы была дэмантаваная агароджа з калючым дротам і сігналізацыяй. Гэта ўчастак Гродзенскага памежнага атрада, які ўсяго ахоўвае 165 кіламетраў мяжы з Польшчай.

Мера шмат у чым вымушаная. У беларускіх уладаў ужо няма грошай, каб утрымліваць савецкі атрыбут часоў «халоднай вайны», які яны захоўвалі восем з паловай гадоў пасля скасавання СССР. Па-першае, на гэта ўжо няма грошай. Па-другое, савецкая сістэма надзвычай неэфектыўная. Застава, на ўчастку якой скасаваны калючы дрот, у сярэднім па дзесяць разоў за ноч атрымлівала сігналы аб спробах парушэння мяжы. Кожнага разу выязджала ўзброеная спецгрупа з сабакам. За месяц — трыста начных выездаў. Колькі бензіну і бяссонных начэй! Аднак амаль усе выклікі – марныя, паколькі сігналізацыя ў большасці выпадкаў рэагуе на лясных звяроў. Для іх мяжы не існуе, але калючы дрот часам калечыць іх, выклікае гібель. Толькі зубры могуць прарваць калючую агароджу. Атрымліваецца, што памежнікі ахоўвалі «жалезную заслону» ад дзікоў і зайцаў.

Канечне, з пачатку года на мяжы з Польшчай, якую ахоўвае Гродзенскі атрад, было затрымана больш за дзвесце парушальнікаў. У чэрвені-ліпені злоўленыя тры групы «афраазіятаў» — усяго 17 чалавек. Але ад іх памежнікам толькі клопаты – утрымлівай, кармі, потым набудзь квіток і пасадзі на маскоўскі цягнік. Па словах памежнікаў, у нашых суседзяў – палякаў – усё зусім інакш: немцы плацяць прэмію палякам за кожнага затрыманага нелегальнага мігранта. Нашыя ж гэтым мусяць займацца бясплатна.

Там, дзе калючага дроту болей няма, дапамагаць лавіць нелегалаў павінна мясцовае насельніцтва. Памежнікі спадзяюцца плаціць яму за гэта з сэканомленых грошай. Колькі канкрэтна — пакуль ніхто не ведае. Яны таксама спадзяюцца, што гэтыя сродкі дазволяць выдаткоўваць на паляпшэнне ўмоваў жыцця і ўтрымання афіцэраў. Аднак не выключана, што грошай яны не ўбачаць. ■

# Замест мэблі – труны

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

Цэлы месяц практычна стаяла Слонімская фабрыка гасцінічнай мэблі. Рабочых распусцілі па дамах, паколькі склады былі перапоўненыя гатовай мэбляй, якую немагчыма было прадаць. Попыт мелі толькі труны, якія вымушана пачалі вырабляць на прадпрыемстве.

З гэтай прычыны цяпер прыняты экстранныя захады. Каб прадаць мэблю ды іншыя вырабы, цэны на іх зніжаныя на 30%, аб чым дадзены аб'явы ў газетах. Прадукцыя сломінскай фабрыкі прадаецца, дарэчы, у 12 мінскіх крамах. У Віцебск, Гомель і Брэст выехалі супрацоўнікі аддзела маркетынга — «выбіваць» грошы з неплацельшчыкаў. Свае даўгі за газ і электрычнасць фабрыка, як было дамоўлена, сплаціць сталярнымі вырабамі.

Гасцінічнай мэблі ў Слоніме робяць усё няшмат. У 1998 годзе —толькі 14% ад агульнай колькасці вырабаў. Летась было зроблена крыху больш — 25%, паколькі Шклоўскі раённы гатэль замовіў новую мэблю да «Дажынак». ■

# Еўропа паставіць нам канчатковы дыягназ

**Рыгор БУЯН**

31 ліпеня – 4 жніўня Беларусь ізноў стане аб'ектам вывучэння аб'яднанай Еўропы. Да нас прыедзе чарговая місія Савета Еўропы ў складзе спецыяльнага дакладчыка па Беларусі Парламенцкай Асамблеі СЕ Вольфганга Берэндта, старшыні палітычнага камітэта Тэры Дэвіса і дэпутата з Чэхіі Цырыла Свабоды. Пра гэта паведамілі кіраўнік КНГ АБСЕ Ханс-Георг Вік і італьянскі амбасадар Джавані Чэруці, які непасрэдна займаецца падрыхтоўкай візіту дэлегацыі Савета Еўропы.

Еўрапейскія палітыкі мяркуюць сустрэцца з прадстаўнікамі правячых колаў, апазіцыі і няўрадавых арганізацыяў – каб выпрацаваць канчатковае стаўленне да восеньскіх выбараў у Палату прадстаўнікоў. Апроч асноўнай праграмы візіту, апазіцыя прапанавала Джавані Чэруці арганізаваць сустрэчы «тройкі» ПА СЕ з сем'ямі зніклых і зняволеных палітыкаў, наведаць офісы афіцыйных і незалежных прафсаюзаў.

Старшыня палітычнага камітэта ПА СЕ Тэры Дэвіс заявіў, што місія прыедзе ў Мінск, «каб пераканацца, якая там сітуацыя». «Тады мы правядзем перамовы з прадстаўнікамі АБСЕ і Еўрапарламента, і я спадзяюся, што ў нас будзе выпрацавана адзіная пазіцыя», — падкрэсліў ён. Савет Еўропы можа прыняць канчатковае рашэнне па «беларускім пытанні» ў верасні або ў кастрычніку.

Сакратар ЦК Партыі камуністаў Беларускай Алена Скрыган паведаміла, што пад час знаходжання ў Мінску «тройкі» ПА СЕ будзе наладжаны «круглы стол» паміж урадам і апазіцыяй, на якім бакі здолеюць, хутчэй за ўсё, выказацца па парламенцкіх выбарах. Аднак канчатковы парадак дня гэтага мерапрыемства мусіць быць узгоднены з апазіцыяй. ■

# Голландское чудо

**Оливер БЛАНКАРД,**
**профессор экономики Мичиганского технологического института**

**Уровень безработицы в Голландии недавно понизился до 3% — цифра, о которой еще не слышали в Европе со времен нефтяного кризиса 70-х. Тем не менее, до недавнего времени численность безработных в этой стране составляла более 10%.**

Для некоторых аналитиков в Европе экономические показатели Голландии настолько удивительны, что они считают это результатом эффекта «мутной воды и зеркал», либо некоего статистического трюка. На примере тех, кто сомневался в реалиях, стоящих «форпостом» экономического роста Америки пять лет назад, такое мнение ошибочно. В Голландии наблюдается не только понижение уровня безработицы; доля вовлечения всего населения на рынке труда так же стремительно растет. По правде говоря, количество рабочих, относящихся к категории (установленной государством) временно нетрудоспособных и инвалидов — на сегодня 12% — по-прежнему велико. Но эта пропорция сейчас гораздо меньше той, фигурировавшей в 80-х. Так что якобы больший процент безработицы не маскируется медицинскими справками.

Другие скептически настроенные обозреватели утверждают, что происходящее в Голландии напрямую зависит от короткой рабочей недели. Средняя продолжительность рабочей недели в стране (включая частично занятых) — 27 часов, в отличие от 29 часов во Франции. Приверженцы идеи короткой недели — как пути к стопроцентной занятости — зачастую приводят пример Голландии, аргументируя в пользу такой системы. Для тех, кто выступает против короткой недели, создание мест за счет сокращения рабочих часов — ложный подход к проблеме; для них это грубая замена рабочего времени увеличением численности кадров.

Ни одну из спорящих сторон нельзя назвать лидирующей в смысле твердого обоснования утверждений. В Голландии зарегистрирован существенный рост в численности рабочих неполной ставки, но эта тенденция проявилась в основном за счет увеличения доли женского труда. Таким образом, аспект неполной ставки не объясняет низкий уровень безработицы.

Что же является секретом столь удачного решения проблемы безработицы в Голландии? Это легко объяснимо. С начала 80-х рост заработных плат был меньшим, чем позволял технологический прогресс. Доходы компаний возросли, что поощрило инвестиции и создание новых рабочих мест. Классический механизм, который сработал безотказно.

Более деликатный вопрос — это определение факторов, послуживших основой для принятия концепции «сдержанных зарплат». Я выделяю два основных из них — это реформа системы страхования безработных и структура сотрудничества инстанций социальной сферы.

В Голландии вступил в силу закон, который связал компенсацию по незанятости со стимуляцией в поиске рабочего места. Отказ безработного от «подходящей» работы означает окончание выдачи государственного пособия. Чем дольше индивидуум остается незанятым, тем шире раздвигаются рамки определения «подходящей» для него работы. На практике это действует так: безработный обязан принять «допустимое» предложение работодателя в первые 6 месяцев незанятости и обязан принять любое предложение по истечении 18-и компенсируемых месяцев. Невыполнение последнего условия влечет отказ в дальнейшем выплачивания пособия.

Голландцы непрестанно говорят о сотрудничестве в социальной сфере, но они правы. Ведь в основе «Голландского чуда» лежит Вассенаарское соглашение (к настоящему времени ставшее уже квази-мифологическим), подписанное в 1982 году между работодателями, союзами и правительством. Тогда для всех было ясно, что экономика Голландии в плохом состоянии. Вассенаарское соглашение было планом к действию. «Сдерживание» зарплат искусно заменило меры, направленные на смягчение негативных последствий безработицы — субсидирование ушедших на «раннюю» пенсию, сокращение рабочей недели. В основном этой стратегии голландцы и придерживались с тех пор.

Опыт Голландии содержит в себе важные уроки для всей Европы. На сегодня экономические условия в Западной Европе довольно хороши — в некоторых местах даже более чем хороши, и они улучшаются в странах Восточной Европы, готовящихся к вступлению в ЕС. Но европейскую экономику можно назвать традиционной «мишенью» для рецессий. При таких рецессиях болезненные переустройства являются необходимостью. Без механизма кооперации в социальной сфере какие угодно переустройства, как результат любой рецессии, скорее всего приведут к повышению уровня безработицы. Имея надежный механизм такого рода, существует шанс избежать негативные последствия на рынке труда. Именно сейчас, в условиях благоприятной экономической ситуации, должна быть рассмотрена и разработана структура сотрудничества в социальной сфере. ■

© Project Syndicate





## У Індыі 4-гадовая дзяўчынка выйшла замуж за сабаку

Чатырохгадовая індыянка выйшла замуж за бадзяжнага сабаку, паведамляе агенцтва *Reuters*. Шлюб адбыўся зусім не па любві, хаця маладажоны, гледзячы па ўсім, адзін аднаму вельмі падабаюцца. Такім чынам бацькі дзяўчынкі хочуць выгнаць з дзіцяці злых духаў.

У апошні час Анжу, так завуць маладзетнюю нявесту, дастаўляла бацькам многа турботаў. Здароўе не пахіснулася – дактары знайшлі ў дзіцяці некалькі хранічных захворванняў, якіх не было яшчэ пару месяцаў таму. Косці дзяўчынкі сталі вельмі крохкімі, і Анжу прыходзілася пастаянна хадзіць з гіпсам то адной, то другой канечнасці. Акрамя таго, дзяўчынка, з якой раней не здаралася ніякіх асаблівых выпадкаў, крыху не патанула ў сажалцы. І моцна апякла рукі, дапамагаючы маці гатаваць абед.

Падазраючы нядобрае, бацькі Анжу звярнуліся за дапамогай да астролага. Агледзеўшы дзіця і склаўшы яе гараскоп, астролаг вырашыў, што ва ўсім вінаватыя злыя сілы планеты Сатурн, якія спрабуюць загубіць дзіця. Па словах астролага, пазбавіць дзяўчынку ад д'ябальскіх падкопаў можна толькі выдаўшы яе замуж за сабаку. Пасля вяселля сабака, звязаны з Анжу свяшчэннымі шлюбнымі вузамі, забярэ ў дзяўчынкі ўсю негатыўную энергію.

Незвычайнае вяселле практычна нічым не адрознівалася ад тыповай індыйскай цырымоніі. Брахманы распявалі гімны перад 150 гасцямі – жыхарамі вёскі, дзе жыве Анжу. Ні адзін з запрошаных не абурыўся гэтым. Як заўважалі суседзі, калі чалавек – у даным выпадку бацька нявесты – хоча раскідваць грашыма і карміць гасцей, яны маюць поўнае права гэта зрабіць. Калі ж нявеста ў знак згоды беражліва надзявала на жаніха гірлянды з кветак, многія з гасцей праслязіліся ад замілавання. І лапамі сабакі паклалі вянок на галаву нявесты. Пасля цырымоніі бацька нявесты заявіў, што такое ў іх сям'і ўжо адбывалася. «40 гадоў таму назад мой дзядуля выдаў замуж за сабаку адну з нашых сваячак. І гэта адразу дапамагло», – сказаў цесць сабакі.

Мясцовая паліцыя, супрацоўнікі якой ведалі аб маючым адбыцца вяселлі, аднеслася да гэтага зусім спакойна. «Скаргі на гэты конт нам не паступалі, шкода нікому нанесеная не была, так што, на мой погляд, гэтае вяселле не супярэчыць ніводнаму існуючаму закону», – паведаміў журналістам кіраўнік раённай паліцыі. ■

# «Евангелле» ад сястры Марты

## Чачэнская вайна вачыма чачэнскай жанчыны

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.3*

Пры баявых дзеяннях кожны са сваёй групы дасылае байцоў дамаўляцца. Самыя прымальныя мэты – у Масхадава. Ён перажывае за свой народ і не хоча, каб гінулі невінныя людзі. А Басаеў і Хатаб праходзяць праз вёскі, не пытаючыся, хочуць гэтага іх жыхары ці не.

### Калідоры вайны

– Мне здаецца, нейкая невядомая сіла круціць рухавік гэтай вайны. Узяць хаця б 30 студзеня, калі мы выходзілі з горада. Усіх было каля 4 тысяч. Там была і прэзідэнцкая гвардыя, і група Лечы Дудаева, і Басаеўскія, і розныя мімалётныя-выпадковыя... Да Ярмолаўкі ішлі пешшу праз два расійскія блок-пасты, і нас прапускалі без ніякага супраціву. Напярэдадні спачатку дамаўляліся аб нечым – аб чым, гэтага я не магу ведаць. Калі мы ўваходзілі ў Ярмолаўку ў пятай ранку, на сопках былі добра бачныя расійскія войскі. Гарматы скіраваныя ў сяло. Яны нас бачылі вельмі добра. І мы іх. Да вечара мы былі ў Ярмолаўцы, пралятала авіяцыя, але ні з аднаго боку ніхто не страляў. Мясцовыя людзі сустракалі нас, завялі ў свае дамы чалавек па дзесяць, кармілі, апранулі, высушылі вопратку, каго трэба, у шпіталь адправілі. І мы выйшлі з сяла без перашкодаў. Тое самае было і ў Закан-Юрце. Насельніцтва нас усіх вельмі падтрымлівала.

Калі мы мірна на вачах федэралаў выйшлі з Ярмолаўкі, праз два дні слухаем навіны з Масквы: што ў Ярмолаўцы знаходзіцца каля 2.000 баевікоў і што ідуць жорсткія баі. Фактычна ж там бамбілі мірнае насельніцтва. Тое самае яшчэ праз 2—3 дні паўтарылася і з Закан-Юртам. Гінулі мірныя людзі, а баевікі ўжо ішлі далей. Толькі ў Катаў-Юрце, не ведаю якім чынам, частка баевікоў трапіла ў засаду. Ужо Масхадава з намі не было, заставаўся толькі Гілаеў. Гілаеў дагэтуль ваюе. Калі яго група выйшла з Камсамольскага, расіяне гэтак жа ваявалі «ўхаластую» – з мірным насельніцтвам.

### Смерць альбо чужына

– Сваіх байцоў мы імкнуліся хаваць, аддаючы ім належнае. Хавалі з пашанаю. У горадзе ёсць парк Кірава – усе нашыя баевікі пахаваныя там. Я вось не падтрымліваю ні Масхадава, ні Басаева. Я проста хачу выказаць боль народа, які патрапіў у нечыя рукі, якому не трэба гэтая вайна. Народа, які хоча жыць нармальна, без указанняў, без гвалту. Народа, які хоча жыць з суседзямі ў міры. Але распараджацца самому сваімі багаццямі на сваёй зямлі. Канечне, я магла б з'ехаць, але – куды ехаць, каму мы патрэбныя? Вось і зараз на мяжы мяне хацелі высадзіць: «У вас там ідзе вайна». Я – у істэрыку. Гэтую вайну – я яе, ці што, прыдумала?! Я стамілася ад усяго гэтага. Мне няма дзе жыць. Калі дом зімою яшчэ не быў разбураны, бачыла б ты яго пасля федэралаў! Усё, што не ўзятае, са злосцю пабітае, паламанае, у кожным куце – экскрэменты... Гэтак Расія паказала свой сапраўдны твар. А потым усё, што было ў доме, – згарэла...

Раней, у першую вайну, мы мелі статус уцекачоў. Цяпер расійскія ўлады пазбавілі нас гэтага статуса. Мы афіцыйна завемся «вымушаныя перасяленцы». Ну дык хто ж мяне вымусіў? Я ахоўвала свой дом, але на нашай вуліцы, заселенай пераважна інгушамі, з'віліся спачатку асеціны, якіх натравілі на інгушаў, а потым – кантрактнікі. На вуліцы Шэфскай, дзе жыў мой стары дзядзька, вынішчылі ўсіх, да аднаго чалавека, не пакінулі сведкаў. Спачатку федэралы стралялі людзей па нагах, потым – у грудзі ці жывот і ўжо тады – дабівалі ў галаву. Я бачыла ля кожнага дома (гэта прыватны сектар) па 2—3 забітых. Я бачыла акачанеўшую на холадзе маладую маці, якая, мёртвая, абдымала мёртвае немаўля. Я бачыла растраляную сям'ю з 12 чалавек. Некаторых тыя, хто заходзіў пазней, паспелі яшчэ прыкрыць брызентам, каб каты з сабакамі не аб'елі...

Я не іду ні на каго са зброяй у руках. Я лячу людзей...

### Лёс чачэнскай нацыі

– Мы спрачаемся з братам. Ён кажа, што ў мяне рамантычны погляд на падзеі. Але мне здаецца, што народ наш пакараны. У нас жа сапраўды дабраахвотна і мірна быў прыняты іслам. Значыць, народ ніхто не прымушаў адракацца ад сваёй ранейшай, спрадвечнай, паганскай веры, а ён адрокся?

У старажытнасці продкі чачэнцаў прадказалі, што будзе народ цярпець вялікія няшчасці сем пакаленняў. Што будуць войны, а ў апошнюю вайну жывыя будуць зайздросціць мёртвым. Зірні: мы да гэтага ўжо дайшлі! У лістах з канцлагера Чарнакозава людзі моляць баевікоў узарваць турму разам з арыштантамі, бо кажуць: мы болей на свеце не жыхары. Пасля гэткіх здзекаў, гвалту, перагвалту – дзяўчат, хлопцаў...

Давай падлічым: мы – сёмае пакаленне? Гэта – апошняя вайна? Бо прадказана, што пасля апошняй вайны Чачэнія будзе жыць так, што людзі будуць хадзіць па золаце і не звяртаць на яго ўвагі – у іх будзе нешта, што даражэй за золата! ■

## Абвінавачаны ў распаўсюджванні інфармацыі праз Інтэрнэт

Улады Кітая абвінавацілі праваахоўніка Хуаня Ці ў падрыве дзяржаўнага ладу за тое, што ён друкаваў на сваім сайце ў Інтэрнеце матэрыялы пра дзеянні 1989 года на плошчы Цяньаньмынь. Хуань Ці быў арыштаваны ў чэрвені падчас адзінаццатай гадавіны крывавага падаўлення на плошчы Цяньаньмынь дэманстрацыі ў падтрымку дэмакратыі. Калі суд прызнае яго вінаватым, яму пагражае турэмнае зняволенне тэрмінам да дзесяці гадоў. Год таму ён склаў сваю старонку ў Інтэрнеце, якая вельмі хутка стала прыцягваць самую аператыўную інфармацыю аб парушэннях правоў чалавека ў Кітаі і выпадках карупцыі ва ўрадзе. Арышт кітайскага дысідэнта – яшчэ адзін знак таго, што кіраўніцтва Кітая не намерана дазваляць хуткага развіцця Інтэрнета, каб не страціць кантролю за распаўсюджваннем інфармацыі, паведамляе Бі-бі-сі. ■

## У Польшчы будзе адкрыты доступ да сакрэтных дасье

Польскае інфармацыйнае агенцтва паведаміла, што ў наступным годзе ў тых грамадзянаў Польшчы, хто стаў ахвярамі рэпрэсіяў пад час панавання камуністычных ідэяў, з'явіцца доступ да сабраных на іх сакрэтных паліцэйскіх дасье. У самой Польшчы меркаванні на конт ідэі абнародавання сакрэтных файлаў падзяліліся. Некаторыя з іх, найбольш актыўныя ў мінулым камуністы, лічаць, што ў дакументах утрымліваецца незаконная і няпраўдзівая інфармацыя. Прэзідэнт краіны Аляксандр Квасьнеўскі, былы камуніст, наклаў вета на гэты закон, аднак парламент пераадолеў яго ў мінулым годзе. Прадстаўнікі руху «Салідарнасць» мяркуюць, што сакрэтная інфармацыя абавязкова павінна стаць адкрытай, нават калі члены ўрада або іншыя вядомыя палітычныя фігуры стануць ахвярамі магчымых судовых працэсаў. ■

# Вёска ў цісках дзяржавы

Юрась ВЯЧКА

**12 ліпеня ў Мінску прайшоў трэці з'езд прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу. Дагэтуль прафсаюз АПК шырокай вядомасцю не карыстаўся, хоць гэта буйнейшы галіновы прафсаюз у Беларусі, які аб'ядноўвае 1 мільён 84 тысячы чалавек. Ды і то вядомасць прафсаюзу АПК прынёс скандал пад час з'езда, які выклікаў міжнародны рэзананс. Улады паспрабавалі дыктаваць прафсаюзу ўнутраную кадравую палітыку, вылучыўшы дзеючаму старшыні Аляксандру Ярашуку альтэрнатыву – цяпер ужо былога міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Юрыя Мароза. Апошні прайграў.**

**НАША СВАБОДА прапануе інтэрв'ю свайго карэспандэнта з Аляксандрам Ярашуком.**

***— Аляксандр Ільіч, для ўсіх відавочны правал сёлетняй пасяўной кампаніі. Можна прагназаваць, што і ў гэтым годзе, як і ў папярэднія, кіраўніцтва рэспублікі ўскладзе ўсю віну за правал на дрэннае надвор'е. Аднак сапраўдныя прычыны няўдачаў у сельскай гаспадарцы крыюцца ў іншым, ці не так?***



— Так, ужо тры гады запар надвор'е, па меншай меры, не спрыяе земляробству. Аднак праўда і тое, што практычных крокаў па змяншэнні залежнасці сельскай гаспадаркі ад надвор'я не робіцца. Аб'ектыўнасці дзеля заўважу: у цяперашніх умовах кіраўніцтва рэспублікі робіць ці не максімум магчымага, фінансуючы АПК з бюджэту, пазабюджэтных крыніцаў намнога болей, чым суседзі. Аднак жа справа не толькі і не столькі ў аб'ёме сродкаў, а ў тым, як яны выкарыстоўваюцца.

Калі не хапае грошай, што тады сапраўдны гаспадар робіць? Канцэнтруе ўсе сродкі і рэсурсы на лепшых землях, каб атрымаць максімальную і гарантаваную аддачу; гэтак робяць у Літве і Польшчы, па гэтым жа шляху пайшлі Расія ды Украіна. Варта задумацца: у ЗША аруць 27% земляў, у Заходняй Еўропе – 40-50%. У нас жа – 70%! І гэта пры наяўнасці самай вялікай колькасці раллі на аднаго жыхара ў Еўропе! Ці не таму мы бедныя?

Пры стаўцы на экстэнсіўны, затратны шлях развіцця сельская гаспадарка будзе і далей здаваць свае пазіцыі. Гэта не прароцтва, а бліжэйшая перспектыва праводзімай на Беларусі аграрнай палітыкі.

***— Якія ж віды на сёлетні ўраджай?***

— Калі параўноўваць з мінулым годам, то сёлета неблагі ўраджай спее на палях Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай абласцей. Аднак значна пацярпелі традыцыйна моцныя Брэстчына і Гродзеншчына.

У Беларусі яшчэ з савецкага часу прыжыўся пункт погляду, што краіна адчувае сябе ў харчовай бяспецы тады, калі вырабляе тону збожжа на чалавека. У нас крыху больш за 9 мільёнаў чалавек, значыць, зыходзячы з гэтага крытэрыя, трэба сабраць каля 9 мільёнаў тон збожжа. Гэты падыход – састарэлы. Ні адна краіна ў свеце не вырошчвае столькі; у цывілізаваных Германіі ды Вялікабрытаніі хапае 400-500 кілаграмаў на чалавека.

Магчыма, разараўшы шматгадовыя травы, сенакосы ды пашы, нават пры ўраджайнасці 10-15 цэнтнераў з гектара, Беларусь збярэ 9 мільёнаў тон збожжа. Аднак пасля дасягнення гэтых «найвыдатных» паказчыкаў такім чынам збожжа будзе танней набыць у Кітаі – нават пры ўсіх транспартных выдатках. Бо ў Польшчы, да прыкладу, пры ўраджайнасці 15 цэнтнераў збожжа не ўбіраюць – нявыгадна. А ў нас і 10, і 5 цэнтнераў – усё ўбіраецца.

***— Але ці зможа краіна сабраць вырашчанае з неймавернымі цяжкасцямі збожжа? Машынна-трактарны парк зношаны, няма паліва...***

— Сапраўды, 60% сельскагаспадарчай тэхнікі выпрацавала свой рэсурс, але ў добрага гаспадара трактар можа працаваць не толькі 9, але і 15 гадоў. Так што, я думаю, ураджай збяром нават састарэлай тэхнікай.

***— Аднак жа ў праблемы ёсць і другі бок медаля: у многіх гаспадарках заробкі не выплачваюцца ўжо з лютага, а агульная запазычанасць па заработнай плаце на вёсцы ў чэрвені склала больш за 64% — а людзі ўжо развучыліся працаваць «за галачку».***

— Мушу сказаць, што ў ліпені сітуацыя яшчэ больш пагоршылася – запазычанасць сягнула ўжо за месячны фонд заработнай платы і склала 16,5 мільярда рублёў. Такой запазычанасці на вёсцы яшчэ не ведалі. Сельскагаспадарчая вытворчасць і перапрацоўка, вёска ў цэлым апынуліся на мяжы дэградацыі і банкруцтва, работнікі не могуць прыстойна зарабляць (25 тысяч рублёў за пяць месяцаў працы «прыстойным заробкам» не назавеш). З 1996 года заробкі катастрафічна падалі, а летась сярэднемесячная зарплата дацягнула толькі да 65,7% мінімальнага спажывецкага бюджэту замест 138%, прадугледжаных Генеральным тарыфным пагадненнем.

За апошнія 9 гадоў колькасць работнікаў у сельскай гаспадарцы скарацілася напалову, 90% міграцый з вёскі ў горад прыпадае на ўзроставую групу 16-29 гадоў. Дэмаграфічная сітуацыя катастрафічная: смяротнасць на сяле пераўвышае нараджальнасць у два з лішнім разы, а ў асобных раёнах – у 3-4 разы! Трэба штосьці тэрмінова мяняць.

***— У вас ёсць уласны рэцэпт?***

— Мы не рушым наперад, калі будзем настойваць на цяперашнім варыянце аграрнай палітыкі. Калі мы не дамо эканамічнай свабоды сялянству, калі мы па-ранейшаму будзем трымаць у жалезных цісках сельгасвытворцаў, то з тупіка, у які мы апынуліся, нам ніколі не выкараскацца. Рашыцца на рэформы ў АПК – неабходны крок. Інакш – поўнае разарэнне і дэградацыя вёскі. ■


Фота IREX/ProMedia

# Неучение – тьма, учение в негосударственном вузе – риск


Фота Ул. ШАПАКА

Наталья РАДИНА

**Идет горячая пора для абитуриентов. Вот-вот решится – кто из них станет студентом, а кому придется еще год упорно готовиться к поступлению. Для многих до последнего момента остается вопросом – в какой вуз подавать документы?**

Кроме государственных учебных заведений, в Беларуси сейчас действуют более десяти негосударственных университетов и институтов. Выбор абитуриента связан не только с будущей специальностью, но и формой вуза, в который они собираются поступать: в государственный или негосударственный. Но бывает, что, проучившись 5 лет, заплатив за обучение в некоторых негосударственных вузах, студенты остаются без диплома.

Негосударственный сектор образования возник в РБ в 1991 году. Юридической основой для его существования стал Закон об образовании, который позволил открывать образовательные структуры негосударственной формы собственности. Еще недавно в Беларуси существовали 20 негосударственных вузов, но в результате одной ревизионной процедуры их число уменьшилось до 12. Процедура эта называется *лицензированием*, за последние четыре года лицензий лишилось 8 негосударственных вузов.

Аттестацию с целью аккредитации вузы проходят за полгода до выпуска своих дипломантов. Лицензирование заключается в проверке негосударственного учебного заведения на способность вести образовательную деятельность.

Негосударственный вуз прежде всего должен иметь здание, в котором, по оценкам Государственной инспекции системы образования, санэпидемстанции и пожарной службы, может проходить учебный процесс. Негосударственный сектор образования сегодня размещается в основном в арендуемых зданиях. Кто побогаче, со временем выкупает помещение, но таких вузов пока единицы. Согласно законодательству, арендовать учебное здание (школу или интернат) запрещено. Хотя не редкость случаи, когда здания в аварийном состоянии пустуют, а денег на капитальный ремонт у государства нет. В таких случаях, наверное, какой-нибудь негосударственный институт с удовольствием выкупил бы эти простаивающие без дела стены и, произведя капитальный ремонт, получил здание, подходящее для учебного процесса.

Однако не все негосударственные вузы стремятся потратить свои деньги даже на такое переоборудование. Из-за неприспособленности для обучения помещений на днях была отобрана лицензия у Брестского негосударственного гуманитарного института. Институт размещался в здании казарменного типа и в течение пяти лет своего существования не сумел создать для своих студентов соответствующие условия для обучения.

Второе требование министерства относится к кадровому составу: не менее 50% преподавателей вуза должны быть его штатными сотрудниками, а каждая кафедра негосударственного института обязана иметь не менее пяти преподавателей, трое из которых должны быть кандидатами или докторами наук.

В штате Брестского гуманитарного института работало только 4 сотрудника. Преподавательская зарплата в республике низкая, и практически все преподаватели работают в нескольких институтах. В 90-х годах с появлением негосударственного сектора образования у них появилась новая возможность подработки. Но для того, чтобы отработавший не один десяток лет в государственном вузе профессор или доцент согласился перейти в штат негосударственного, необходимо было положить ему зарплату гораздо выше прежней. Так и поступают те негосударственные вузы, которые прошли лицензирование и имеют необходимый состав преподавателей с научными степенями.

На прошедшей 30 июня коллегии министерства образования было принято решение не продлевать лицензию и Белорусскому негосударственному институту финансов, экономики и управления. Имея лицензию лишь на головной вуз, БелНИФЭУ открыл филиалы в нескольких городах Беларуси, не позаботившись о получении лицензии для них. Такие безлицензионные филиалы, по словам сотрудников министерства образования, полностью выпадают из-под контроля министерства: «Это значит, что мы не знаем, как там осуществляется учебно-воспитательный процесс и вообще, чему там учат». Кроме того, институт нарушил положение об обязательной половине штатного преподавательского состава, а кафедра практической психологии была представлена преподавателями, не имеющими научных степеней.

Говоря о лишенных лицензии вузах, трудно не вспомнить, как несколько лет назад скандальным образом закончилась образовательная деятельность Белорусского экономико-лингвистического негосударственного университета. Его учредители, узнав о решении министерства образования закрыть их университет, бежали за границу, прихватив с собой оплату за обучение, внесенную шестистами студентами.

«Обучение», по свидетельству аттестационной комиссии государственной системы образования, было своеобразным. Вся материально-техническая база университета состояла из 34 магнитофонов «Беларусь» и 5 компьютеров на 600 студентов, которые надеялись в этом университете обучиться нескольким иностранным языкам. За пять лет обучения студенты обязаны были изучить всего 25 дисциплин (в Белгосуниверситете среднее число изучаемых дисциплин колеблется от 45 до 60). Оплата за обучение взималась в размере 1.000 долларов в год. Понятно, что студенты диплом об окончании экономико-лингвистического университета не получили.

Как складываются судьбы студентов, которые, по вине нечистоплотных учредителей, выбрасывают немалые деньги на ветер и в результате не могут получить желанный диплом? Согласно законодательству, они имеют право на социальную защиту государства. Выпускникам, обучавшимся специальностям, прошедшим аттестацию министерства образования, предлагается сдать экзамены в других вузах и получить дипломы. Студенты могут перейти на платные отделения Белгосуниверситета и других государственных и негосударственных вузов.

Так что, если вы решили получить образование в негосударственном вузе, прежде всего убедитесь в наличии у него лицензии, выданной министерством образования РБ. Если это филиал какого-нибудь негосударственного учебного заведения, то у него должна быть отдельная лицензия, а не лицензия головного вуза.

Каждый абитуриент (и его родители) должны внимательно прочитать договор, регулирующий отношения между институтом и студентом. Нередки случаи, когда невнимательные подписывают не договоры, а скорее приговоры ежегодно выплачивать за обучение постоянно растущие суммы. Стоит подписать договор со словами: «Учредитель оставляет за собой право корректировать оплату за обучение» — и прощай, стабильность, на пять лет. ■

# Гробовой гвоздь для Немиги

## Минский горисполком не расстался с мечтой превратить исторический центр Минска в гараж для богатых

Константин МАТУСЕВИЧ

**Архитектуру называют застывшей музыкой в камне. Есть музыка чарующая, есть убогая «попса», есть криминальные романсы. Все это можно найти и в «музыке» архитектуры. Минск, в силу неблагоприятных исторических условий и традиционно равнодушного к городу начальства, чарующей «застывшей музыки» почти не имеет.**

Проспект им. Франтишка Скорины напоминает застывший в камне имперско-сталинский «марш». Единично сохранились несколько памятников эпохи барокко, а все более-менее приличное, что уцелело после войны в районе Старого города, подверглось сокрушительному разрушению в 60-е годы или разрушается сейчас под эгидой «реставрации». Жертвою переустройства Минска стала и историческая застройка Немиги, которую снесли под магистраль для автотранспорта («разгрузили город»). Правая сторона улицы была обезображена многоквартирным домом с торговой пристройкой («Дом на Немиге»). Изуродованную бульдозерами левую сторону прикрыли временными пивными и продуктовыми точками. Естественно, они глядятся на Немиге бельмом, но простояли четверть века.

Скоро их ждет конец. Минские власти решили, что самое лучшее украшение для Немиги как исторического центра города – огромная крытая автостоянка, говоря иначе — большой гараж. Он как бы символизирует богатство и потому имеет преимущества перед прочими постройками общественного назначения (музеи, кафе, выставки, офисы и т. д.). Иного объяснения для безумного решения Минского горисполкома об «открытом конкурсе»(прошел, естественно, в полутьме тайны, никто о нем не слышал) на проект паркинга прямо напротив церкви Петра и Павла.

Вполне возможно, что к этой главной причине (платежеспособность автовладельцев) прирастают, как грибы-паразиты к дереву, иные причины (кто-то хочет строить, кто-то станет эксплуатировать, вдруг некто значительный в городском масштабе живет неподалеку и т. п.). Объект, который могут в скором времени возвести в историческом ядре города, на техническом языке называется **«Многоуровневая автостоянка с объектами торгового и административного назначения по ул. Немига в г.Минске.** Проектное предложение». Снимки показывают место, где желают поставить «застывшую музыку» автостоянки.

Проектировала это возможное строение «Мастерская А.Гречина» (лицензия №619, то есть вроде бы профессионалы). Возможно, с инженерной точки зрения, предложение выполнено грамотно (не развалится, не загорится, не взорвется). Но с точки зрения морали, уважения к закону «Об охране историко-культурного наследия», к истории города – сама работа над таким проектным предложением есть акт беспринципности и отсутствия элементарного художественного вкуса. Откровенный архитектурный цинизм. «Мастерская А.Гречина» в пояснительной части своего предложения сообщает, что для «открытого конкурса» Мингорисполком обеспечил ее необходимой документацией – «*топосъемкой, примерными предложениями, схемами возможного сноса зданий и сооружений с учетом расположения проектируемого объекта в охранной зоне исторического центра Минска*». То есть чиновники в Мингорисполкоме прекрасно знали, какую гадость они хотят и готовы подарить минчанам. Но: я начальник – ты дурак...

Еще лет тридцать назад на месте снесенной исторической застройки Немиги планировали построить два многоквартирных дома и соединить их пешеходной платформой для прогулок населения. Идея получила в народе презрительное название «Каньон», и что-то помешало реализовать ее в полном объеме. Появилась только половина «каньона». Сейчас другой стороной этого недоделанного каменного ущелья будет служить многоэтажный гараж. Разумеется, сооружение такого монстра, начиненного автомобилями, обосновывается самыми благими намерениями – «разгрузить» нагруженную общественным транспортом автомагистраль на коротком отрезке улиц Немига – Богдановича, помочь пешеходным потокам, пассажирам метро, покупателям торгового центра «На Немиге». Почему-то не сказано, что рядом проходит и президентская трасса. «**Исходным моментом при этом**, — цинично пишут авторы проектного предложения, — **является установка на поддержку и обогащение сложившегося архитектурного облика в рамках общей концепции бережного отношения к исторической среде г. Минска»** (выделено мною. – **К.М.).**

Как эта «концепция бережности» сработала на Менском замчище, улицах Комсомольская, Революционная, на пл. Свободы, общеизвестно – руины или пустырь. В чем же такое бережное отношение намечают выразить на еще живом последнем участке Немиги и в каких формах? «**Автостоянку предлагается выполнить в четыре уровня с нормативно-необходимыми въездами, выездами по пандусам**». Нетрудно вообразить, с какой степенью бережливости отнесутся и как «разгрузят» этот район Немиги 104 автомобиля с первого уровня, а еще на втором — 87, на третьем — 98 и на четвертом — 99. Всех вместе – 388 моторов. Автозавод!

Понимая, что Немига все же не загородный пустырь, архитекторы старательно искали возвышенные оправдания: «**Идея образного формирования комплекса основана на мифе о реке Немиге. Струящаяся графика мощения, элементов благоустройства, двухцветного стекла витражей, волнообразного светопрозрачного покрытия призвана вызвать соответствующие ассоциации — лирическая, нематериальная мифическая НЕМИГА»** (так и написано, прописными буквами, как бы верх почтения. – **К.М.)**

Вообще-то о зданиях подобной конструкции панегиристы железобетона ранее писали, например, о Минском Дворце спорта, что «в центре белорусской столицы приземлился марсианский космический корабль (вполне возможно, вкладывался тот смысл, что такое уродство трудно было заиметь в другом месте планеты). Времена изменились, теперь в моде ностальгия о прошлом. И появилась «лирическая нематериальная мифическая Немига». Почему же, однако, мифическая? Реально существовали и река, и район города, тут было менское городище и первая минская улица. Или «мифическая» в сознании архитекторов означает,что после строительства автостоянки от Немиги действительно ничего не останется, лишь миф? Но вот старейшая в Минске церковь Петра и Павла, напротив которой будут гудеть и отравлять воздух «нематериальные» 388 машин, трудно назвать мифической, а ее колоколам придется спорить с четырьмя сотнями моторов. Она вызывает «ассоциации» о духовной жизни Немиги, а четыре этажа, заставленные автомобилями, будут ассоциироваться с пеклом в центре города (четыре яруса – четыре круга).

Для кого же предназначается эта с витражами и с мощением «лирическая» автостоянка ? Якобы для автопосетителей «Торгового дома «На Немиге». Гараж и торговый дом соединятся переходом над загруженной магистралью. По ул. Комсомольской покупатель заезжает в паркинг, проходит по переходу (металлическая ферма высотой 4 метра, шириной 6 метров, длиной 40 метров) в магазин, затем обремененный покупками возвращается обратно и выезжает на ул. Немига у моста, перед президентской магистралью. Бедные покупатели могут просто погулять по переходу, осматривая сверху крыши троллейбусов и мерседесов. Бесплатно. Больше ничего интересного для осмотра в этом районе Минска для них не будет.

Если какими-либо способами заинтересованные чиновники все же сумеют осуществить свою затею, Минск станет тем единственным городом, который никто не превзойдет в отношении чиновной беспринципности и архитектурной глупости. ■



Минск, ул.Немига, 1960-е годы. Место, где планируется многоэтажный гараж


Минск, пересечение улиц Немиги и Комсомольской. Все видимое на этом снимке уничтожено в 1970-х годах


В рамке проектное предложение «мастерской А.Гречина»: многоуровневая автостоянка на улице Немига напротив Петропавловской церкви на месте, закрытом эскизом

